# Голас Радзімы

№ 1 (2143)
4 студзеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

**Як вядома, у Маскве завяршыў сваю работу другі З'езд народных дэпутатаў СССР. З'езд стаў галоўнай падзеяй канца 1989 года. На ім быў прыняты шэраг дакументаў, якія павінны самым непасрэдным чынам адбіцца на ўсім грамадскім развіцці Савецкай краіны, на тым, як мы будзем жыць у 1990 годзе. У абмеркаванні многіх законаў, пастаноў прынялі ўдзел і народныя дэпутаты СССР з Беларусі. Старшыня калгаса і рабочы, трактарыст, партыйны работнік, навуковец, — усе яны зацікаўлена і грунтоўна працавалі ў савецкім парламенце.**

**НА ЗДЫМКАХ: «Прашу слова!»; у зале пасяджэнняў другога З'езда народных дэпутатаў СССР у Крамлі; народныя дэпутаты СССР, старшыні калгасаў з Беларусі У. БЯДУЛЯ, У. КАЛАЧЫК і партыйны работнік з Украіны М. ПРЫЙМАЧЭНКА; члены беларускай дэлегацыі на Краснай плошчы ў Маскве.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**









ПЛЕНУМ ЦК КПСС

# У АДЗІНСТВЕ ПАРТЫІ — ЛЁС ПЕРАБУДОВЫ

**Дваццаць пятага, дваццаць шостага снежня 1989 года ў Маскве праходзіў нечарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. На яго разгляд былі ўнесены пытанні, звязаныя з рашэннямі XX з'езда Кампартыі Літвы, які прыняў «Дэкларацыю аб самастойнасці Камуністычнай партыі Літвы» і пастанову «Аб статусе Кампартыі Літвы». Прыняты таксама праграма і статут КПЛ.**

На Пленуме зрабіў даклад М. С. Гарбачоў. Ён паведаміў: XX з'езд Кампартыі Літвы абвясціў, што Літоўская рэспубліканская арганізацыя КПСС становіцца самастойнай Камуністычнай партыяй Літвы. Галоўную мэту яна бачыць у стварэнні незалежнай дэмакратычнай літоўскай дзяржавы. Свае адносіны з КПСС, як і з іншымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі і рухамі, рэарганізаваная кампартыя мае намер падтрымліваць на раўнапраўных партнёрскіх асновах, прычым, характар, змест гэтых адносін будуць залежаць ад таго, якое разуменне прынятых Камуністычнай партыяй Літвы рашэнняў праявіць КПСС.

У час XX з'езда Кампартыі Літвы група яго дэлегатаў, не згодных з самастойным статусам Кампартыі Літвы, арганізавала канферэнцыю Кампартыі Літвы.

У інфармацыйным паведамленні рэспубліканскага друку ўказана, што «ў яе пасяджэннях прынялі ўдзел 144 дэлегаты, а таксама прадстаўнікі рада партыйных арганізацый Вільнюса і Каўнаса, сельскіх раёнаў. Дэлегаты канферэнцыі, якія стаяць на пазіцыях самастойнай Кампартыі Літвы ў саставе абнаўляемай КПСС, прынялі пастанову і зварот да камуністаў рэспублікі. У адпаведнасці з патрабаваннямі Статута КПСС быў выбраны часовы ЦК Кампартыі Літвы».

М. С. Гарбачоў паведаміў, што ў гэтыя дні ў ЦК паступаюць тысячы зваротаў, рэзалюцый партыйных і рабочых сходаў, якія патрабуюць прынцыповай ацэнкі літоўскага з'езда, энергічных і дзейсных мер па абароне адзінства Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Гэтая рэакцыя зразумелая, сказаў дакладчык. Ідэі нацыянальнага сепаратызму заўсёды былі чужыя духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму — стрыжнёвай асновы савецкай многанацыянальнай дзяржавы. Але справа тут не ў эмоцыях, яны не лепшы дарадчык у такіх пытаннях. Асудзіць і закляйміць — тут многа мудрыць не трэба.

Аднак згадзіцца з літоўскімі таварышамі — значыць паглыбіць раскол, адштурхнуць тых камуністаў, якія шчыра адданы сацыялістычным ідэалам, мэтам перабудовы, якія, нават прагаласаваўшы за рашэнні XX з'езда, працягваюць пакутліва разважаць аб правільнасці зробленага кроку.

Падрабязна аналізуючы сітуацыю, што склалася ў Літве, М. С. Гарбачоў сказаў, што за апошні час мы не раз сутыкаліся з акалічнасцямі, якія па традыцыйнай логіцы падштурхоўвалі цэнтр да ажыццяўлення надзвычайных мер. Але, падкрэсліў дакладчык, ідэал моцнай палітыкі не ўзмацненне жорсткасці і канфрантацыі, а згода і салідарнасць. Сёння яны ў радзе галоўных задач дня. З вышыні таго сацыяльна-гістарычнага перавалу, на які ўзышло грамадства, праглядваецца прамая, хоць і нялёгкая дарога — шлях да гуманнага сацыялізму, рух на аснове кансалідацыі ўсіх наяўных і магчымых патэнцыяльных прагрэсіўных сіл. На базе грамадзянскага міру, а не грамадзянскай вайны, на базе ўзаемнай павагі, калі бакі гатовы слухаць адзін аднаго, рабіць узаемныя ўступкі, разумець высокую каштоўнасць разумных кампрамісаў.

Такі падыход, я думаю, мы павінны праявіць і ў разглядзе ўзнікшай сітуацыі ў Літве. З аднаго боку, мы павінны пазбягаць якіх-небудзь двухсэнсоўнасцей і недагаворванняў. Цяперашняе партыйнае, дзяржаўнае кіраўніцтва не дапусціць распаду саюзнай дзяржавы.

У гэтай сувязі перада мной як Старшынёй Вярхоўнага Савета СССР паўстае пытанне аб тым, каб унесці ў вышэйшы заканадаўчы орган краіны пытанне аб правамернасці існавання ў дзяржаве тых арганізацый і палітычных рухаў, якія вядуць сепаратысцкую дзейнасць і распальваюць нацыянальны тэрор.

Мы не можам дазволіць, каб дэмакратыя і публічнасць, закліканыя разняволіць людзей, узмацніць іх бяспеку, выкарыстоўваліся ў процілеглых мэтах — для раз'яднання народа, для яго запалохвання і адурманьвання. Дэмакратыя павінна быць абаронена ад спекуляцый такога роду.

Ёсць ва ўсёй гэтай праблемы і вельмі важны міжнародны аспект. Існаванне цэласнага, трывалага і магутнага Савецкага Саюза — гэта настойлівая неабходнасць эпохі, усёй існуючай цяпер складанай сістэмы міжнароднай бяспекі. У яе разбурэнні, што можа прывесці да дэстабілізацыі палітычнай абстаноўкі ў Еўропе і ў свеце, не можа быць зацікаўлены ніхто.

У гэтай сувязі (і гэта таксама ўрок з сітуацыі ў партарганізацыі Літвы) трэба дакладна акрэсліць тыя межы, за якія нельга выходзіць, таму што выхад за іх азначае загадзя запраграміраваны зрыў намаганняў у будаўніцтве федэрацыі, зрыў перабудовы ў цэлым.

Адной з такіх межаў з'яўляецца немагчымасць адмовы ад адзінай структуры КПСС.

ЗВАРОТ З'ЕЗДА

## ДА ГРАМАДЗЯН СССР

**Другі З'езд народных дэпутатаў СССР прыняў зварот да грамадзян усёй краіны. У ім гаворыцца:**

**Краіна падышла да цяжкага і адказнага рубяжа. Ад нашых рашэнняў і дзеянняў залежыць яе далейшы лёс. Пры ўсёй разнастайнасці поглядаў, думак, часам процілеглых, у ходзе вострых дыскусій выявілася адзінства З'езда ў галоўным: няўхільна ісці па шляху сацыялістычнага абнаўлення, пачатага партыяй, не заседжвацца, не плесціся ў хвасце падзей, а больш рашуча рухаць рэформы па ўсіх напрамках. Іменна тут, на нашу думку, выхад з сітуацыі, у якой апынулася краіна.**

**Абмеркаваўшы і падтрымаўшы меры ўрада па аздараўленню эканомікі краіны, З'езд, разам з тым, прыйшоў да вываду, што гэтыя меры не стануць працаваць, калі не будзе значна паскорана прыняцце жыццёва важных законаў, якія складаюць ядро эканамічнай рэформы. Яны заклікалы забяспечыць пераход да сацыялістычнай таварнай гаспадаркі, надаць нашай эканоміцы новыя, больш сучасныя і такія неабходныя якасці: многаўкладнасць, гібкасць, экалагічную бяспеку, успрымальнасць да навукова-тэхнічнага прагрэсу. Яны дапамогуць выкараніць ураўняльнасць і ўтрыманства пры паслядоўным правядзенні прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці, права чалавека на аплату працы ў прамой залежнасці ад яе вынікаў. З'езд даручыў Вярхоўнаму Савету СССР ужо на бліжэйшай сесіі разгледзець і прыняць гэты пакет законаў.**

**З'езд даў імпульс і развіццю палітычнай рэформы, павышэнню канстытуцыйнай культуры, напаўненню нашай сацыялістычнай федэрацыі новым зместам. Новае выбарчае заканадаўства расшырае магчымасці для выбрання ў Саветы народных дэпутатаў актыўных, па-новаму мыслячых грамадзян, здольных на справе выконваць свае высокія абавязкі.**

**Як і ўся краіна, дэпутаты з трывогай і болем успрымаюць успышкі міжнацыянальных канфліктаў, якія ўзнікаюць у нашым грамадстве, і звяртаюць свой голас да кожнага з вас, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. Мы падышлі да небяспечнай мяжы, перад якой трэба спыніцца, пакласці канец разладам і недастатковаму разуменню, выключыць метады націску, блакады і насілля. Не сляпая бязлітаснасць, а чалавечнасць, спагадлівасць, узаемная павага, розум і добрая воля здольны вырашыць любыя, нава[illegible]ыя, здавалася б, тупіковыя канфлікты.**

**Ацэньваючы атмасферу ў грамадстве, мы, народныя дэпутаты, прыходзім да вываду, што нам, усім савецкім людзям, трэба мацаваць давер'е адзін да аднаго, помніць, што няма вінаватых народаў, як няма і пакаленняў, якія правініліся. Аб'яднанне ўсіх здаровых грамадскіх сіл адбываецца ва ўмовах рашучай пераацэнкі нашага мінулага, аднаўлення гістарычнай праўды. Гэты працэс ідзе няпроста, закранае інтарэсы і ўяўленні многіх людзей, трывожыць іх душу і памяць. Маральнае ачышчэнне, асуджэнне рэпрэсій, грубага парушэння правоў чалавека, рэцыдываў сталінскага мыслення не павінна кідаць цень на цэлыя пакаленні савецкіх людзей. З'езд звяртае ўвагу на неабходнасць паўсюдных паважлівых адносін да дзяржаўных сімвалаў, гістарычных помнікаў, духоўных каштоўнасцей народаў.**

**З'езд упэўнены, пераадоленне любых праблем — эканамічных, палітычных, сацыяльных, міжнацыянальных — ляжыць толькі на шляхах рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства, узаемаразумення паміж людзьмі і народамі.**

ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ

## НАРОДНАЯ ДЫПЛАМАТЫЯ

**Вестунамі пацяплелага свету сталі дзеці з пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Разам з дырэктарам Стрэлічаўскай сярэдняй школы Святланай Літвін дзеці з Хойніцкага раёна накіраваліся ў Індыю. Дырэктар Чарнаборскай школы Павел Язерскі суправаджае ў Ізраіль 50 школьнікаў Быхаўскага і Чэрыкаўскага раёнаў. На працягу месяца беларускія дзеці пройдуць курс лячэння ў санаторыях гэтых краін. Па ініцыятыве савецкай грамадскай арганізацыі «Дзеці Чарнобыля» і міжнароднай «Дзеці як міратворцы» (яе ўзначальвае акадэмік Я. Веліхаў) ажыццяўляецца комплексная медыка-сацыяльная праграма аздараўлення дзяцей, якія апынуліся ў зоне бяды. Ва ўсесаюзным банку «Рэгістр» сёння налічваецца 37,4 тысячы дзяцей, якія маюць патрэбу ў пастаянным медыцынскім кантролі і лячэнні.**

**— У студзені дзве тысячы дзяцей з пацярпеўшых раёнаў паедуць у чарнаморскія здраўніцы Каўказа і Крыма. У грамадскі савет арганізацыі «Дзеці Чарнобыля»,— сказаў старшыня Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя Леніна пісьменнік Уладзімір Ліпскі,— паступілі прапановы са здраўніц Дагестана, Казахстана, Прыбайкалля, Украіны. Адкрыты інвалютны рахунак праграмы «Дзеці Чарнобыля». У канцы кастрычніка на расшыраным пленуме праўлення Савецкага дзіцячага фонду, які адбыўся ў Мінску, была абнародавана гэтая нацыянальная праграма. Дзякуючы народнай дыпламатыі цяпер яна стала інтэрнацыянальнай. У яе ажыццяўленне ўключылася грамадскасць розных краін. Мы лічым сваім абавязкам праявіць клопат аб кожным дзіцяці з зоны, наладзіць доўгатэрміновы і надзейны кантроль за яго здароўем, а галоўнае — стварыць атмасферу маральнай рэабілітацыі дзяцей.**

МІЛАСЭРНАСЦЬ





**Дзеці з раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, сталі гаспадарамі аднаго з лепшых у рэспубліцы санаторыяў — «Аксакаўшчыны». Чацвёртае галоўнае ўпраўленне Міністэрства аховы здароўя БССР, якому яшчэ нядаўна належаў будынак, перадало яго з усім комплексам медыцынскага абсталявання новастворанаму ў Беларусі Навукова-даследчаму інстытуту радыяцыйнай медыцыны. Тут размясцілася яго клініка.**

**Прыязджаюць у «Аксакаўшчыну» па накіраванню лячэбных устаноў Хойніцкага, Брагінскага, Чачэрскага, Слаўгарадскага і іншых раёнаў. За час знаходжання ў клініцы пацыенты праходзяць усебаковае медыцынскае абследаванне, атрымліваюць курс лячэння, а вярнуўшыся ў родныя мясціны, знаходзяцца яшчэ нейкі час на дыспансерным уліку пад наглядам спецыялістаў.**

**Сёння ў «Аксакаўшчыне» папраўляюць здароўе сто дзяцей і дзевяноста дарослых. Зручныя палаты, прыгожа аформленыя фае, сталовая, дзе кожнага чакае разнастайнае харчаванне, прасторны плавальны басейн і, вядома ж, цудоўная прырода — усё садзейнічае выздараўленню.**

**НА ЗДЫМКАХ: у аддзяленні функцыянальнай дыягностыкі праходзяць абследаванне Лідзія СІНЕНКА і яе чатырохгадовы сын Саша з вёскі Рэчыца Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Абследаванне праводзіць медсястра Алена БАРМУТА; у басейне клінікі інструктар Уладзімір ТЫШКЕВІЧ праводзіць аздараўленчыя заняткі.**

## СОЦИАЛЬНЫЙ АСПЕКТ ПЛАНА И БЮДЖЕТА СССР НА 1990 ГОД

# ПРЕДЕЛ ВОЗМОЖНОГО

Сейчас, когда экономика Советского Союза переживает трудный период развития (перестройку, сопровождающуюся спадом в темпах и объемах производства), амбиции социального порядка, казалось бы, должны отступить на задний план. Тем не менее в правительстве страны, представившем недавно на рассмотрение народных депутатов СССР план и бюджет страны на 1990 год, и в Верховном Совете СССР, обсудившем и одобрившем их, подобные акценты сочли уместными и необходимыми. В результате советские люди, возможно, впервые за многие годы получили такой план (и бюджет), в котором социальные нужды, социальная направленность экономических программ превалируют над всеми остальными (хозяйственными, оборонными, внешнеэкономическими и др.).

Что в первую очередь обращает на себя внимание? Это то, что возрастает доля национального дохода, идущего на текущее потребление страны и ее народа — с 83,7 процента до 86,7. Вроде бы немного, всего—3 процента, но за каждым процентом стоит немалая сумма средств. Сегодня это — четыре с лишним миллиарда рублей. При этом надо иметь в виду, что для такой инерционной экономики, как советская, которая к тому же еще и больна в полном смысле этого слова, это крупное изменение. Для сравнения приведем статистические данные прироста национального дохода, используемого на потребление, за предыдущие годы: десятая пятилетка (1976-80 гг.) — 1,4 процента, одиннадцатая (1981-85 гг.) — 0,9, за три года двенадцатой — всего 0,7 процента. Как видим, разница, если сопоставлять по годам, весьма и весьма существенная.

Далее: радикальной, если не сказать больше, представляется и структурная перестройка, которая выводит группу отраслей, работающих непосредственно на потребителя (группа «Б»), в такой отрыв от остальных, о котором прежде даже мечтать не приходилось. В 13 раз (против предыдущего года) группа «Б» будет опережать в выработке своей продукции те предприятия, которые специализируются на производстве средств производства. Без преувеличения факт этот можно назвать «историческим»: никогда еще группа «Б» не шла в своем развитии с таким опережением, как это запланировано на 1990 год.

Беспрецедентный прогресс в производстве потребительских товаров, не менее радикальные меры по перестройке структуры экспорта, а также — конверсия, на долю которой выпало переоборудование предприятий пищевой промышленности, а также — работа непосредственно на потребительский рынок (в основном по части насыщения его технически сложными бытовыми товарами), все это вместе позволило правительству и Верховному Совету СССР запланировать на 1990 год 40-миллиардный прирост товарооборота.

Прирост в 40 миллиардов — даже для Советского Союза цифра гигантская. При нормальном состоянии розничного рынка она могла бы привести его к «затовариванию». Но, думается, этого не произойдет. Все дело в том, что нынешний советский рынок настолько голоден, что он способен «съесть» все, что хоть в какой-то степени пользуется спросом. Производители товаров и услуг, естественно, учитывают это обстоятельство и нажимают не столько на ассортимент, количество и качество своей продукции, сколько на цену. В предыдущие годы цена позволила им без особого труда справиться и с программой выпуска потребительских товаров, и с заданиями по прибыли, хотя рынок, ассортимент и качество предлагаемых им товаров от этого не улучшились. Не исключено, что и в 1990 году они попытаются решить свои проблемы за счет потребителя. Так что 40 миллиардов рублей прироста товарооборота — цифра, безусловно, большая, но она еще ни о чем не говорит. Может случиться так, что вместо товаров и услуг советские люди получат в основном лишь высокие цены. На эту опасность при обсуждении плана и бюджета СССР на предстоящий год и обращали внимание многие депутаты.

Ими в этой связи со всей остротой был поставлен вопрос о материальном положении лиц, живущих на фиксированные доходы. И в первую очередь — о пенсионерах и инвалидах. Интересы этих и приравниваемых к ним групп населения нашли в плане и бюджете страны достойное отражение. На повышение их материального благосостояния государство централизовано выделило 13,4 миллиарда рублей. Из них 4,1 миллиарда — на повышение минимальных размеров пенсий (до 70 рублей в месяц). При этом все социальные слои населения впервые за многие годы получили в этом отношении равенство.

Из упомянутых выше миллиардов 540 миллионов ассигнуется на повышение минимальных размеров пенсий инвалидам и по случаю потери кормильца; 200 миллионов — на обеспечение бесплатного отпуска лекарств участникам Великой Отечественной войны, а также родителям и женам погибших военнослужащих; 232 миллиона — повышение размеров ежемесячных государственных пособий инвалидам с детства...

Свыше 700 миллионов рублей выделяется из бюджета на финансирование более продолжительного отпуска по уходу за ребенком (раньше было до года, теперь — до пулутора лет); 435 миллионов — на выплату пособий малообеспеченным семьям в связи с тем, что с 1990 года возрастной порог такого рода социального вспомоществования увеличивается до 12 лет; 172 миллиона — на улучшение питания в родильных домах, детских больницах и санаториях...

Практически во всех этих случаях речь идет о дополнительных ассигнованиях к тем, которые уже давно осуществляются. Конечно, для такой страны, как СССР, все эти прибавки — не бог весть что. Но, повторяясь, хочу напомнить еще раз: решения о данных приращениях приняты в крайне неблагоприятных для советской экономики условиях (спад в производстве, инфляция). Следовательно, они — предел возможного, того, что могло позволить себе государство в нынешней обстановке и одновременно — отражение нового курса в его социальной политике. Курса, в котором общечеловеческие ценности, жизненные интересы каждого проживающего в стране выдвинуты на первый план и как таковые обеспечиваются финансами в первую очередь.

**Александр ДЕДУЛ.**

## *ВНОВЬ КОММУНЫ?*

# «АССОЦИАЦИЯ БЕЛЫХ ВОРОН»

Почти через семьдесят лет в нашей стране вновь стали организовывать коммуны. Первая из них создана в Костромской области усилиями «Ассоциации белых ворон». Так называется самодеятельная организация, ставящая своей целью создание коммун на селе, в экологически чистой местности.

— Название ассоциации выбрано не случайно, — говорит ее председатель Олег Попов. — На первый взгляд может показаться странным, если кто-то в наше время вдруг решит вступить в коммуну. В глазах большинства он, естественно, станет белой вороной. Однако время показало, что желающие добровольно стать белыми воронами есть. Членом коммуны практически может стать любой человек.

Главное, на чем держится коммуна, — это труд, обязательный для всех ее членов. В оплате труда — никакой уравниловки. Каждый получает в соответствии со своим вкладом в общее дело. Кроме того, коммуна полностью обеспечивает себя продуктами питания, а каждый коммунар получает жилье со всеми удобствами.

Самообеспечение продуктами питания достигается за счет того, что члены коммуны занимаются натуральным хозяйством: выращивают овощи, фрукты, занимаются пчеловодством, разводят рыбу. Объем производства ограничивается количеством, необходимым для удовлетворения личных потребностей в продуктах питания и уплаты налогов. Первое время к коммуне относились с опаской, впрочем, как и ко всему новому. Однако со временем коммуна даже стала популярна в Костромской области, жители и представители власти, сочувствуют ей и стараются помочь.

В настоящее время ассоциация планирует создать еще одну коммуну, уже в Подмосковье. В отличие от первой она будет творческой. То есть помимо удовлетворения чисто житейских интересов своих членов в экологически чистой еде и нормальном жилье она будет заниматься творческой работой. В примерном положении о творческой коммуне, разработанном ассоциацией, есть такой пункт: творческий труд (в идеале) — бескорыстный. По мнению Олега Попова, это своего рода попытка представить альтернативную модель обновления общества. Но трудиться «за спасибо», да еще творчески в настоящее время чрезвычайно сложно. Поэтому коммуна, чтобы желаемое не осталось навсегда на бумаге, а стало реальностью, будет заниматься и платной творческой деятельностью: театральной, концертной, научной. Коммуна будет создавать равные условия для творчества ее членов. Вопрос о дополнительной поддержке какого-либо начинания будет обсуждаться на общем собрании — главном органе самоуправления.

Немаловажен и вопрос о распределении доходов от творческой деятельности. Они будут делиться на три части: фонд развития коммуны, всевозможная благотворительная деятельность (организация коммун для инвалидов, безработных, детей-сирот) и оплата творческого труда.

Собственная общеобразовательная школа и школа искусств — еще одно отличие творческой коммуны от простой. Учиться там будут дети коммунаров и местных жителей, а преподавать сами коммунары. Учащиеся также считаются членами коммуны, главная их задача и общественное поручение заключается в том, чтобы строить жилье, в том числе и для себя. Мы хотим добиться того, чтобы к 16 годам у подростков было собственное жилище.

Членство в творческой коммуне не обязательно предполагает постоянное жительство в ней. Главное условие — чтобы это не шло в ущерб общему делу. За своими членами мы сохраняем право свободного выхода из коммуны. Решившемуся на это возвращаются личные средства, внесенные в строительный фонд, а также деньги, возмещающие труд на строительстве.

**Антон СТЕПАНЕНКО.**
(АПН).

**ПОД НОВЫМ СИМВОЛОМ**

# ЗА ЗМЕЕЙ — ЛОШАДЬ

Ну, наконец!.. Наконец-то эти мыши, драконы, змеи, которых если и отваживаешься любить, то никак не простой человеческой, а лишь экологической любовью, уступают место настоящей властительнице сердец!

Говорят, что белых лошадей в природе, по существу, нет. Те же, с которыми мы встречаемся, на самом деле просто очень рано поседевшие. А рождение белого жеребенка — событие крайней редкости. Уже приятно, что в восхождении знака белой лошади на небосклоне нашей судьбы есть нечто исключительное. Значит, надеяться на удачи и перемены к лучшему мы можем с большими основаниями, чем обычно позволяем себе в начале каждого года.

Символ белой красавицы с развевающейся гривой, прискакавшей к нам из незапамятных времен, как нельзя более созвучен сегодняшнему дню. Осознание планеты общим домом, признание приоритета общечеловеческих ценностей над узкогрупповыми и классовыми рождаются не только государственными шагами и глобальными мероприятиями, но и ощущением общности наших скромных маленьких интересов и привязанностей.

И тут лошадь бьет все рекорды, победоносно проходя по свету через сознание и быт всех народов и сквозь все времена.

Лошади мы обязаны возникновением Олимпийских игр: их основал в благодарность богам древнегреческий герой, победив жестокого царя в гонке на колесницах. Память о Троянском коне охраняет нас от вероломства и предательства. К решительным действиям побуждает пример Александра Македонского, который противопоставил один удар меча кропотливой безрезультатности напрасных усилий. Разрубленный им гордиев узел был не чем иным, как туго затянутыми постромками на конной колеснице.

Крылатый конь Пегас приносил вдохновение древним грекам. На крылатом коне скакал герой армянского эпоса Давид Сасунский. Туркмены считают святыней каменный отпечаток копыта волшебного коня Дульдуля. А один из самых популярных сюжетов русской иконы — всадник на белом коне, Георгий-Победоносец, поражающий копьем дракона.

Лошадь в русском эпосе и фольклоре — особый герой. Она под стать своим хозяевам-богатырям. Такой конь бежит — земля дрожит, из ушей пламя пышет, из ноздрей дым столбом. Скачет он повыше леса стоячего, пониже облака ходячего. Верный и чуткий, он в минуту опасности обнаружит вообще замечательные качества: заговорит человеческим голосом, обережет хозяина от беды, подскажет выход.

Как говорится в гороскопе: ум лошади схватывает мысли до того, как другие их высказали, что позволяет опередить их. Кстати, это свойство лошади и по-другому отмечено. Владимир Даль, составитель знаменитого толкового словаря, включил в него более шестидесяти пословиц и поговорок о лошади, среди которых оказались и приметы: лошадь зимой ложится — к теплу; трясет головой и закидывает ее кверху — к ненастью; фыркает в дороге — к радостной встрече.

Гороскопы звериного цикла приходят к нам с Востока. С неослабевающим интересом мы вчитываемся в сообщение, что людей, родившихся в год лошади, отличает мудрость и талант, быстрота ума и склонность к слепой привязанности, любовь к шумным развлечениям и крайняя независимость. Когда эти строчки проходят двойную проверку: понят ли наш собственный характер и верно ли отражен лошадиный, происходит чудо. Непостижимая логика чужого мышления оборачивается обновленным взглядом на привычное. Ну, хотя бы вот это из гороскопа: лошадь хороший финансист. Помилуйте, да какие же могут быть у лошади сделки? Хотя...

Вот сказка «Конек-горбунок», созданная в прошлом веке Ершовым. Маленькая невзрачная лошадка верой-правдой служила своему хозяину — Ивану-дураку, который, как положено традициями русских сказок, был совсем не дурак и оказался с помощью этой лошадки удачливее всех окружающих. А получил он эту лошадку от белой (белой!) кобылицы в возмещение за учиненную ею потраву крестьянских посевов. Разве это не честное ведение дел, и разве это не должно быть непременным признаком хорошего финансиста?

Но шутки шутками, а будет совсем неплохо, если то, что обещает гороскоп родившимся в год лошади, сбудется. А мы сумеем это разглядеть. Быть внимательными, понимать друг друга — не так уж мало. Ну а если какие-то предсказания не придутся нам по нраву, то будем помнить и высказывание одного старого тренера на ипподроме: «Если лошадь поведет себя неподобающим образом, то виноват в этом человек».

**Генриетта РЕПИНСКАЯ.**

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# НЕ ПАЧУВАЦЦА ЖАБРАКАМІ НА ПАПЕРЦІ

**НА ПЫТАННІ ГАЗЕТЫ «ГОЛАС РАДЗІМЫ» АДКАЗВАЕ ПІСЬМЕННІК І ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ НІЛ ГІЛЕВІЧ**



**— Як вы, Ніл Сымонавіч, ставіцеся да нацыянальнай спадчыны беларусаў, створанай у галіне культуры за тыя гады, што пражыў наш народ пры Савецкай уладзе! Як ацэньваеце яе! Бо сёння мы нярэдка чуем, што нічога вартага, каштоўнага не стварылі, што не нацыянальнае ўсё гэта, не наша і да таго падобнае... Дык што ж мы маем у рэшце рэшт!**

— Скажу адразу: вельмі шкада, што ў нас сёння мае месца нігілістычнае стаўленне да таго, што стварыў беларускі народ у сферы духоўнай культуры за семдзесят гадоў жыцця пры Савецкай уладзе. Надта ж «добрай» думкі таварышы нігілісты пра наш народ! Уяўляеце: тры чвэрці веку дзесяцімільённая нацыя духоўна як бы і не жыла, не развівалася. Можна ў такое, мякка кажучы, несур'ёзнае сцверджанне паверыць?.. Самае крыўднае, што да энтузіястаў агульнага ахайвання далучаюцца часам і людзі, якіх у недахопе нацыянальнага патрыятызму нібыта і не абвінаваціш. Наадварот: прэтэндуюць на званне змагароў за беларускую культуру, за трываласць і ўзвышэнне беларускай нацыі. Дзіўна! Закрэсліваючы зробленае многімі пакаленнямі, хочам будаваць і ўзвышацца? На якім жа грунце? Сапраўдныя руплііўцы нацыянальнай культуры бяруць на ўлік, берагуць і далучаюць да духоўных скарбаў нацыі нават самую дробную дробачку. А тут — замах на ўсё агулам!.. Выбачайце за рэзкасць, але гэта ўжо не проста безгаспадарчасць, а — нейкае самаедства. Гэта праява самых брыдкіх рыс характару, якія сярод нашых людзей сустракаюцца: самапрыніжэнне, самааплёўванне, няўменне паганарыцца тым, чым ганарыцца трэба.

Сказаўшы гэта, мушу, аднак, сказаць і іншае. Я разумею, адкуль ідуць такія нігілістычныя перакосы ў поглядах на духоўныя набыткі нашага народа за савецкі перыяд яго гісторыі. Рэч у тым, што на працягу азначаных сямідзесяці гадоў у нас у сферы духоўнай культуры — у асвеце, у гуманітарных навуках, у мастацтве і літаратуры, у народным духоўным побыце — сапраўды было столькі «наламана дроў», зроблена столькі нядобрага, недарэчнага, неразумнага, памылковага ці свядома шкоднага для здароўя гэтай культуры, што няцяжка і разгубіцца, і нават упасці ў роспач і прыйсці да высновы, што трэба ўсё закрэсліць наогул — усе гэтыя поўныя драматызму і трагізму старонкі нашай гісторыі. А вось гэтага рабіць якраз і нельга. Трэба быць мужнымі, і як бы ні было крыўдна і балюча — не падаць духам, спакойна і ўважліва ва ўсім разабрацца, даць усяму належную — з вышыні сённяшняга разумення — ацэнку. Пустое, памылковае, шкоднае трэба аддзяліць ад таго, што было і застаецца каштоўным, здаровым, плённым, і ўсё назваць сваімі імёнамі. І гэта здаровае, плённае — развіваць далей, адпаведна духу новага часу. Крызісныя моманты ў жыцці грамадства для таго і наступаюць, каб іх пераадольваць.

**— У наш час вялікага пакаяння і самабічавання, калі патрэбай стала, а можа і ўяўнай прыкметай рэвалюцыйнасці, перабудовы рваць на сваёй галаве валасы прынародна і выстаўляць перад усім светам свае незагойныя раны, там-сям у інтэлектуальным асяроддзі раздаюцца заклікі: вярнуцца на зыходныя пазіцыі, а ўжо адтуль пачынаць будаваць сапраўдныя падмуркі нашай культуры, хай сабе і сацыялістычнай. Гэта датычыцца не толькі беларускага правапісу, які існаваў у 20—30-я гады. Дык ці можна, на ваш погляд, наогул вярнуцца назад і пачаць усё спачатку!**

— Крычаць на цэлы свет пра свае балючыя раны, вядома ж, не трэба. Тым больш, што свет не вінаваты ў іх. Гэта — наша ўласная і віна і бяда; мы самі абняславіліся тым, што дазволілі збіць сябе з правільнага шляху, што столькі часу пакланяліся фальшывым кумірам і цярпелі нясцерпнае, і самі павінны цяпер з гэтае няславы і з гэтае бяды выходзіць. Дык чаго ж крычаць-лемантаваць на ўсе галасы? Людзі з пачуццём уласнай годнасці так не робяць. Гэта і не ў нашай, беларускай традыцыі таксама. У нас гора заўсёды перажывалася цяжка, але — без лішняга галасу, мужна. Бясконца выносіць плач на вуліцу, — такога ў нашых звычаях не было.

Наконт таго, каб вярнуцца назад і пачаць усё спачатку... а — наколькі вярнуцца назад? На якія зыходныя пазіцыі? На тыя, што былі ў нас у часы Скарыны? Ці — у часы «Нашай нівы». І што — сапраўды абсалютна ўсё пачынаць спачатку? Значыць — усё набытае нашай культурай закрэсліць, увесь вопыт духоўнага станаўлення нацыі адкінуць? Ды несур'ёзна ж усё гэта, выбачайце! Каб мы і хацелі — мы не закрэслім ні перажытага, ні набытага, бо яно — у нас, без яго ўжо нас і нашу культуру не ўявіць. Задавальняе нас яе сённяшні ўзровень ці не (а, вядома ж, не задавальняе!) — але гэта менавіта сённяшні ўзровень, на які папрацавалі не толькі многія тысячы дзеячаў асветы, навукі, мастацтва і літаратуры Беларусі, але і духоўная культура ўсяго свету. Якім бы складаным і трагічным ні быў працэс развіцця нашай нацыянальнай культуры — ён быў менавіта працэсам, у якім многае трацілася, але і многае набывалася — і насуперак усяму — не толькі дрэннае. Таму не з нейкага абстрактнага нуля нам трэба пачынаць новы этап будаўніцтва беларускай нацыянальнай культуры, а з таго

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**Якуб КОЛАС**

# КАЛЯДЫ

## (УРЫВАК З ПАЭМЫ «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»)

**Прыйшлі піліпаўкі, Мікола,
Дзянькі праходзяць больш вясёла,
Бо хоць зіма і крэпіць дужа,
І хоць бушуе яе сцюжа,
Ды тое дзікае ігрышча,
І вецер жудасна засвішча,
Як на дудзе ці на кларнеце
На нейкім злыдневым банкеце, —
Ды ўсё ж свяглеюць далаў вочкі
І іх бялюткія сарочкі.
Ёсць хараство і ў гэтых зімах
І ў мёртва-белых тых кілімах,
Што віснуць-зззяюць хрусталямі
Над занямелымі лясамі,
Калі ў агністым мароз троне,
У крывава-багравай заслоне
Над светам рукі ціха ўздыме
І зачаруе, усё абніме;
А як усходзіцца завея,
І вецер з снегам задурэе,
Ды затрасецца віхрам белым!..
Эх, колькі волі ў руху смелым!
— Гуляй, зіма, твая часіна!
Ды скора будзе палавіна,
А там цяплом табе павее;
А ўдзень і сонейка прыгрэе!—
Паддасць, бывала, дзядзька руху,
Пачуўшы холад-завіруху.
Ад гэтых слоў лягчэй на сэрцы,
Бо ўсё ж маркотны вы, каберцы.
Зімы халоднай і мярцвячай,
І ласкі хочацца гарачай,
Вясны душа твая жадае,
І ў сэрцы радасць расцвітае
Ад аднае ўжо толькі думкі,
Што гэта зімка збярэ клумкі
І пойдзе-знікне на паўгода,
І зноў ажывіцца прырода.**

**Хлапцам прыелася вучоба:
Цяпер калядак чакаць трэба,
І думка іх не тым занята,
Усё болей ходзіць каля свята.
І міла гэта іх чаканне!
Адзнакі блізкіх зімніх святак —
Гарыць салома каля хатак.
Пажар вясёлы ў час світання!
— А што там свеціцца, нябожа!
Няўжо гарыць хто, не дай божа!
— Не, не пажар: то — сцяг калядны,
Япрук там смаліцца дзесь ладны,
Свой крок апошні замыкае:
Япручча доля ўжо такая.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Любота, братцы! Снег лятае,
Ды так спакойна, так ціхутка!
Куды ні глянь — усё бялютка.
А тыя лёгкія пушынкі,
Здальнейшых ручак кружавінкі,
Сухіх чаротаў чуць кранущца,
То так жа люба засмяюцца,
То ціха-ціха загамоняць,
То штосьць шушукнуць, то зазвоняць.
А там, між лесам і табою,
Сам бог паводзіць барадою:
Трасецца сетачка сняжынак,
Як смех прыгожанькіх дзяўчынак,
Што звоніць песняй маладою.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Сняжок падкідвае заўзята:
Снег на куццю — грыбы на лета,
Такая матчына прымета,
А сцежкі чорны — ягад многа;
Ну, і за гэта хвала богу.
Абегаў Уладзя раўчавіну,
І клін, і пасечку, лагчыну.
Па жменьцы ў снег аўса стаўляе —
Зайцоў ён гэтым прывабляе,
Каб праз акенечка з каморы,
Калі прынадзіцца каторы,
У ночку цёмную хадзіць,
Навесці стрэльбу і забіць,
Бо тут зайцоў было даволі.
І дроў на гэта накалолі,
Трасянкі загадзя натрэслі,
Сянца пахучага прынеслі:
Куцці гаршчок ужо ў калена
Стаяў на лаве, чакаў сена,
І вось цяпер гаршчок з куццёю,
Як цар даўнейшаю парою,
У пачэсны кут, на свой прастол,
Стаўляючы з гонарам за стол
На гэта сена пад багамі,
Уладар над хлебам і блінамі,
Бо ён у гэты дзень — персона!
Яго вянчаў абрус-карона:
Гаршчок агорнуты пашанай,
Хоць ён фаміліі глінянай.
Якія ж матчыны намеры
Наконт куцці, наконт вячэры!
Ох, гэта дзе... цікава,
Калі якая бу... страва,
У якім ліку, ў якім парадку!
Што на канцы і што ўпачатку!
А ў маткі ўсё абмеркавана
І ўсё прадумана ад рана.
Там, на гары, пад шчытам дзе-та,
Быў мак павешан яшчэ з лета —
Цяпер у цёрле ён пацёрты,
У патайным куце каморы,
Як смерць Кашчэя, пад запоры
Мядок быў хітра дзесь запёрты, —
Цяпер яго насталі часы,
Бо ён патрэбен для закрасы,
І што кісель той без сыты
У вечарок гэты святы!**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**У хаце добры лад і згода,
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасць вечара святога —
Не ўчуеш слова ты благога,
І ўсе прыбраліся і памыліся,
Міхал з Антосем падгаліліся
І парасчэсвалі чупрыны.
— Ну, засцілайце стол, мужчыны! —
І стол той гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падымаюць,
На стол растрэсваюць мурог —
На сене колісь быў сын-бог —
І роўным пластам рассцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць.
За стол садзяцца ўсе ў парадку
І прад сабой кладуць аладку,
Відэльцы, лыжкі разбіраюць
І стравы першае чакаюць.
— Ты, брат, глядзі не ашукайся:
Не надта зразу накідайся,
Бо потым шчыра пашкадуеш,
Калі жывот свой напіцуеш:
Чым дальш — смачнейшыя патравы,
І многа іх, і ўсе цікавы;
Я знаю хітрасць гэту ўсю, —
Алесь гаворыць Кастусю.
Міхал бутэльку адтыкае,
Бо ўжо закуска тут чакае:
Стаяць, як горкі, скавародкі,
Тут акунькі, мянькі і плоткі,
Ды так падсмажаны, што люба —
Сама да іх імкнецца губа.
Гарэлка, радасць-весялуха,
Прыемна булькае для вуха
І гэтак вочы прыцягае,
Ну, як каханка маладая!
— Ну, што ж, Антось, здароў будзь,
брацe!**

**Няхай дае бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае,
Каб у хляве ды ўсё пладзілась,
Каб жыта ў полі каласілась,
Няхай раяцца добра пчолы,
І самі будзем мы вясёлы;
За год дай божа дачакаць
Здаровым новы год спаткаць.
— Дай божа! — дзядзька адазваўся
І сам з прамовай зварачаўся,
П'ючы цяпер да гаспадыні, —
Падатак кожнай дай часіне,
На ўсё гатовы ў кожным часе.**

**І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя з лета.
Але не ўсё яшчэ і гэта:
Аздоблен квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй — цішком скажу між намі, —
Каб і язык не ўцёк часамі.
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы-праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі —
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш — абліжыся.
За праснаскамі йшлі кампоты,
Кісель з мядовою сытою;
Вячэру скончылі куццёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы падатак той аддаць,
Стары звычай ушанаваць.
І после гэтакай вячэры
Жывот выпучваўся без меры,
А з-за стала як уставалі,
То нават трохі і стагналі.**

**На першы дзень святых калядак —
Такі ўжо быў стары парадак —
Збіралі сена са стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, у драбнюткім сене —
Здавён-даўна вялося й гэта —
Уважна зернетак шукалі
І па тых зернетках гадалі,
Які зародзіць хлеб налета.**

## ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ

Наша рэспубліка першай прыме IV Фестываль самадзейнай мастацкай творчасці сацыялістычных краін, які будзе прысвечаны 45-й гадавіне вялікай Перамогі. Пачаўшы сваё шэсце з пагранічных раёнаў Беларусі, ён, пасля ўрачыстасцей у Мінску, адправіцца ў Чэхаславакію, ГДР, Польшчу. У фестывалі прымуць удзел мастацкія групы з Балгарыі, Венгрыі, В'етнама, Манголіі, ГДР, КНДР, Рэспублікі Куба, ПНР, ЧССР, СССР.

Такі фестываль упершыню пачне свой старт у Савецкім Саюзе. Праходзіць ён у час, калі ў нашай краіне і краінах усходняй Еўропы адбываюцца працэсы абнаўлення сацыялістычнага жыцця, ва ўмовах значных змен палітычнага клімату ў свеце.

Пяць дзён фестывалю ў нашай рэспубліцы — з 20 па 25 красавіка — будуць адзначаны антываеннымі мітынгамі, канцэртамі і выстаўкамі работ удзельнікаў мастацкай самадзейнасці і народных умельцаў.

Цікавымі маюць быць сустрэчы ў маладзёжным лагеры ў ваколіцах Мінска, міжнародным інтэрклубе. Асноўныя ўрачыстасці ў Мінску пройдуць каля Палаца спорту. Найбольш адметныя з іх — інтэркірмаш, «горад майстроў», выступленні фальклорных і эстрадных груп. Мяркуецца паказ вырабаў народных умельцаў, майстроў нацыянальных музычных інструментаў. Сувенірную прадукцыю можна будзе тут жа набыць на аўкцыёне «Сувенір». Падрыхтоўчы камітэт прыняў рашэнне правесці міжнародны гала-канцэрт.

У апошні дзень, калі эстафета фестывалю будзе перададзена гасцям з Чэхаславакіі, у Вялікім акадэмічным тэатры оперы і балета БССР адбудзецца святочны канцэрт з удзелам фальклорных калектываў рэспублікі.

Старшыня аргкамітэта IV Фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці сацыялістычных краін — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай.

## ПАЧАТАК СЕРЫІ «БУКЕТ ДРУЖБЫ»

У ашхабадскім выдавецтве «Магарыф» пабачыла свет анталогія беларускай дзіцячай літаратуры «Яснае сонейка» («Арчык асман»). Гэтым выданнем туркменскія кнігавыдаўцы адкрылі серыю «Букет дружбы», у якой мяркуюць прадставіць усе літаратуры саюзных рэспублік.

У беларускім томе — вершы і проза Я. Купалы і Я. Коласа, М. Багдановіча і З. Бядулі, А. Вольскага і В. Хомчанкі, М. Чарняўскага і Э. Агняцвет... Складальнікі анталогіі — Алесь Емяльянаў і Касым Нуртадаў. Сярод перакладчыкаў — вядомыя туркменскія літаратары, народныя паэты Туркменістана Ата Атаджанаў, Каюм Тангрыкуліеў, паэты, празаікі Азат Рахманаў, Ахмет Курбаняпесаў, Курбаніяз Дашкынаў...

«Магарыф» якраз тое выдавецтва, якое даўно сябруе з беларускімі аўтарамі, беларускай літаратурай. У розных зборніках з яго сцен прыйшлі да юнага чытача Туркменістана творы Э. Агняцвет, І. Муравейкі. Асобнай кніжкай пабачылі свет апавяданні Якуба Коласа. Выходзілі ў «Магарыфе» і кнігі аўтараў, чыя радзіма Беларусь, — Міхася Карпенкі, Міколы Калінковіча.

А. КАРЛЮКЕВІЧ.

# НЕ ПАЧУВАЦЦА ЖАБРАКАМІ НА ПАПЕРЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

ўзроўню, на якім яна сёння знаходзіцца. Зрабіўшы пры гэтым вельмі сур'ёзныя высновы з урокаў, якія нам падала гісторыя за пройдзеныя ад Кастрычніка дзесяцігоддзі.

Вядома, у пэўных канкрэтных пытаннях мы будзем вяртацца назад і аднаўляць несправядліва забытае, неапраўдана страчанае. Перш за ўсё тое, што вызначае самабытнасць нацыі, непаўторнае духоўнае аблічча народа. Мы вымушаны ўсё гэта адраджаць і — ужо на новай, сучаснай аснове — развіваць далей. Поспеху тут мы дасягнем толькі тады, калі троху-патроху здолеем узнавіць нашы найбольш цяжкія страты. Маю на ўвазе страты, якія панесла беларуская нацыянальная самасвядомасць і беларуская мова. Без адраджэння ў самых шырокіх масах беларусаў аднаго і другога — з усімі іншымі, прыватнымі пытаннямі будаўніцтва нацыянальнай культуры нам не справіцца.

Што датычыць вяртання беларускага правапісу, які існаваў да рэформы 1933 года, то гэта пытанне зусім не другараднае ці надуманае, як некаму можа здавацца. Асабіста я глыбока перакананы, што згаданая рэформа правапісу нашу цудоўную мілагучную мову страшэнна пакалечыла. Асабліва тым, што было ліквідавана абазначэнне мяккасці зычных С, З, ДЗ, Ц, Л, Н на пісьме пры дапамозе мяккага знаку, пасля чаго беларуская мова пачала гучаць не зусім па-беларуску. Не сумняваюся, што нашай грамадскасці давядзецца неўзабаве паставіць пытанне аб сучасным беларускім правапісе на парадак дня.

**— Аднойчы на паважнай нарадзе мне давялося слухаць прамову паважанага прафесара, які сцвярджаў, што беларускія дзеці ў беларускіх школах павінны выхоўвацца толькі на беларускай літаратуры. Як вы лічыце, ці можа беларус пражыць без Пушкіна, Дастаеўскага, Талстога?**

— Думаю, што тут мела месца нейкае непаразуменне. Можа, гэты паважаны прафесар проста агаварыўся ці недакладна выказаў думку? Можа, ён меў на ўвазе, што дзеці беларускіх школ з літаратурай іншых народаў павінны знаёміцца на беларускай мове? І што ў школьных бібліятэках павінны быць — у перакладзе на беларускую мову — усе лепшыя творы сусветнай літаратуры? Дык гэта патрабаванні зусім законныя — асабліва з увагі на тыя перамены ў статусе беларускай мовы ў рэспубліцы, якія прадугледжаны нядаўна апублікаваным праектам «Закона аб мовах у БССР».

На другую частку пытання коратка я адкажу так: не толькі свядомы беларус, родны па крыві і духу брат рускаму, але і любы культурны чалавек у свеце не асудзіць сябе на такое няшчасце, ці, калі хочаце, на такое пракляцце. Мець магчымасць чытаць Пушкіна, Дастаеўскага, Талстога — і не чытаць? А да гэтых жа імёнаў просяцца ў адзін шэраг і дзесяткі іншых, якія складаюць славу і гонар рускай літаратуры! Ну, а калі ўжо зусім па поўнай справядлівасці, дык у гэты шэраг трэба ставіць і вялікія літаратурныя імёны іншых народаў свету, без засваення якіх пражыць, вядома, можна, а вось лічыцца культурным чалавекам — наўрад.

**— Беларусаў, перакананы, слушна называюць празмерна сціплымі. Мы прызвычаіліся, як той казаў, не выторквацца, бо ёсць і лепшыя, і разумнейшыя за нас. І ўсё ж асмелюся паставіць перад вамі такое пытанне: у якіх суадносінах знаходзіцца беларуская літаратура і сусветная? Якое месца можна ёй адвесці ў агульначалавечай культуры? Толькі па праўдзе, без боязі пераацаніць...**

— Пытанне цяжкае. І трохі балючае. Балючае, бо трэба шчыра прызнацца, што беларускую літаратуру ведаюць у свеце ўсё яшчэ кепска, перакладаецца яна на іншыя мовы і прапагандуецца ў іншых краінах усё яшчэ слаба. І таму — вызначыць, яе месца ў вялікім свеце духоўнай культуры няпроста. Упэўнены, што нават і вельмі патрыятычна настроенаму беларусу не прыйдзе ў галаву нашу літаратуру — па значэнню і ролі ў развіцці сусветнай культуры — прымяраць да рускай, або да французскай, або да англійскай... Так, нам месца нашай роднай літаратуры ў свеце бачыцца досыць сціплым. Але гэта зусім не значыць, што яно ніякае і што мы нічога ў гэтых адносінах не далі чалавецтву, нічым не ўзбагацілі агульналюдскую скарбніцу духоўнай культуры. Прыгадайма плён працы, з выхадам на шырокія абсягі Еўропы, вялікага асветніка, вучонага і першадрукара на землях усходнеславянскіх Францішка Скарыны. Прыгадайма такія імёны, як Мікола Гусоўскі і Сімяон Полацкі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Алаіза Пашкевіч-Цётка, Алесь Гарун і Максім Гарэцкі... А далучым да іх імёны Кузьмы Чорнага і Уладзіміра Жылкі, Міхася Зарэцкага і Аркадзя Куляшова, Івана Мележа і Уладзіміра Караткевіча — перад імёнамі жывых слынных майстроў нашага слова спынюся, бо рызыкую каго-небудзь не прыгадаць і тым самым пакрыўдзіць. Тым больш, што іх, гэтых слынных майстроў, дзякаваць богу, многа. Дык хіба, маючы такую гісторыю краснага пісьменства і такі багаты на яркія, таленавітыя імёны яго сённяшні дзень, можам мы пачувацца жабракамі на паперці сусветнага храма літаратуры? Ні ў якім разе!

Гэтым не хачу сказаць, што сучасны стан нашай літаратуры мяне цалкам задавальняе. Як, зрэшты, і ўсёй савецкай літаратуры. Не, не задавальняе. Хутчэй наадварот: засмучае. Бо новых моцных твораў пра самае турботнае, трывожнае і балючае ў нашым сённяшнім жыцці пакуль што паяўляецца мала. Відаць, такая асаблівасць самога часу, што выпаў на нашу долю. Так ён дыктуе сваю волю пісьменнікам. Але гэта ўжо тэма асобнай вялікай гаворкі.

**— Пісьменнікаў у нас заўсёды «заганялі» ў гушчыню жыцця: там ваша месца — назірайце і адлюстроўвайце! Але прыклад класічнай літаратуры, нашых слаўных продкаў сведчыць, што пісьменнік, сапраўдны пісьменнік, заўсёды ішоў крышку наперадзе жыцця сучаснага яму грамадства, быў яго прарокам. Як вы лічыце, дзе месца пісьменніка сёння: у гушчыні жыцця ў якасці яго хранікёра ці можа нават і добрага яго даследчыка або крышачку наперадзе! Каб прадбачыць, прадказваць, заклікаць да яснай мэты!**

— Нейкага адзінага, універсальнага спосабу жыцця і творчасці для ўсіх пісьменнікаў быць не павінна. У кожнага ён свой, індывідуальны, непаўторны, непадобны на іншыя, і выбіраецца самім пісьменнікам у адпаведнасці з асаблівасцямі сваёй творчай натуры. Таму ўсякае «заганянне» ў гушчыню жыцця, прад'яўленне аднолькавых патрабаванняў да ўсёй пісьменніцкай грамады адразу, — гэта гвалт над творчай свабодай, а значыць — вялікая недарэчнасць, плёну з якое чакаць марна. Гэту ісціну гісторыя савецкай літаратуры пацвердзіла дастаткова пераканаўча. «Па закліку» прыходзілі ў літаратуру аўтары і пісаліся кнігі, толькі — дзе яны сёння, хто іх успомніць можа? Кожны пісьменнік знаходзіць сваю тэму і адпаведны жанр — сам і толькі сам! Гэтак ён і знаходзіць самога сябе, здзяйсняецца як творчая асоба.

Меркаванне, што «сапраўдны пісьменнік заўсёды ішоў крышку наперадзе жыцця сучаснага яму грамадства, быў яго прарокам» — спрэчнае, за абсалют прыняць яго наўрад ці можна. Хтосьці можа абмежавацца і роляй хранікёра, дай толькі бог, каб яго хронікі былі мастацкія. Нехта выступіць у ролі добрага даследчыка жыцця, дай толькі бог, каб яго даследаванні зноў жа былі **мастацкімі.** Хіба гэта мала — па-мастацку даследаваць жыццё чалавека, бясконца разнастайны свет людзей? Ну, а каму-небудзь выпадае і найвялікшая місія — быць не толькі мастаком, але яшчэ і прарокам, мастаком-празорцам, які бачыць далёка наперад, прадчувае і прадугадвае далейшы ход грамадскага жыцця, прадказвае будучыню. Але ж гэткіх гісторыя літаратуры ведае няшмат, ва ўсякім разе — на сотні не лічыць. Думаю, што гэта менавіта ў дачыненні да іх людзі карыстаюцца словам: геній.

**— Ніл Гілевіч найбольш вядомы як пісьменнік і грамадскі дзеяч, палітык. Пра ваша выступленне на перадапошняй сесіі Вярхоўнага Савета БССР гавораць, спрачаюцца ў афіцыйных і неафіцыйных колах, у сталіцы і на перыферыі. Скажыце, што вас найбольш хвалюе сёння, на парозе Новага года, і як прадстаўніка нацыянальнай інтэлігенцыі, і як грамадскага дзеяча!**

— Найпершы мой клопат, якім я дзесяткі гадоў жыў і жыву сёння, — лёс нашай роднай мовы і культуры, а значыць — лёс беларускай нацыі. Усё, на што я выдаткоўваў час і сілы, так ці іначай было падпарадкавана гэтаму, амаль без выняткy. Гэты клопат ахоплівае ўсю маю і літаратурную, і навуковую, і грамадскую чыннасць. Гэта найчасцей прымушала мяне браць у руку тое пяро, з-пад якога паявіліся на свет мае паэмы і вершы, п'есы і проза, публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы. Дзеля гэтага дваццаць пяць гадоў чытаў студэнтам універсітэта лекцыі, выдаў пяць тамоў беларускага фальклору ў сучасных запісах і сем навуковых манаграфій, прысвечаных народна-паэтычнай творчасці і літаратуры. Дзеля гэтага пераклаў на беларускую мову і апублікаваў творы звыш двухсот балгарскіх паэтаў і пісьменнікаў, каля сотні паэтаў Югаславіі — пераважна славенскіх, многіх паэтаў рускіх і украінскіх, польскіх і лужыцкіх... Дзеля гэтага перш за ўсё сустракаўся і сустракаюся з чытачамі, жыхарамі рэспублікі — каб яшчэ і яшчэ раз сказаць ім: шануйце і беражыце мову нашу беларускую! Не дапусціце, каб яна перастала нам служыць і загінула! Інача — сыдзем з гістарычнай арэны і мы самі!..

Колькі ні перабіраю ў памяці сваё свядомае — пачынаючы з ранняга юнацтва — жыццё, заўсёды на першым месцы ў мяне было гэта. Зразумела, моцна хвалюе мяне і ўсё іншае, чым жыве сёння наш народ. Асабліва — праблемы экалогіі, і найперш — наша нечуваная трагедыя: чорная чума радыяцыі. Але нават і ў гэтых умовах не магу не думаць пра экалогію беларускай культуры, пра лёс роднага слова. Такая ўжо, мабыць, мая планіда. Як вы разумееце, само па сабе пытанне пра лёс нашай мовы шчасліва не вырашыцца. За яе шчаслівы лёс трэба змагацца. Вельмі рады, што сёння гэта ўжо разумеюць многія, і паднялі голас у падтрымку. Буду бязмежна шчаслівы, калі і ўвесь беларускі народ скажа: нашай роднай мове — жыць і быць вечна!

**— Самы любімы занятак сёння, прынамсі, у сродках масавай інфармацыі, на высокіх трыбунах рознамаштабных сходаў і форумаў ламаць партыйна-бюракратычны апарат. Ёсць заклікі ўзяцца і за Саюз пісьменнікаў. Многія лічаць яго непатрэбнай надбудовай. Лічаць, што пісьменнікі абыдуцца і без свайго творчага саюза. Дык вось, цяпер спытаю вас як сакратара праўлення СП СССР: ваша думка наконт будучыні Саюза пісьменнікаў!**

— Разваліць Саюз пісьменнікаў, вядома, можна, але гэта была б вялікая памылка, аб чым бы ў хуткім часе горка пашкадавалі самі пісьменнікі, у тым ліку і разбуральнікі. Не ведаю, якая будзе грамадская сітуацыя і ці будзе ён патрэбен гадоў праз дваццаць-трыццаць, але сёння, на маё перакананне, ліквідоўваць яго няможна. Гэта ж прафесіянальны саюз літаратараў! Хто ж найлепш абароніць прафесіянальныя правы пісьменніка, як не яго творчы саюз?.. Іншая рэч, што наспела пільная патрэба ў пэўнай яго рэарганізацыі, у пераглядзе некаторых прынцыпаў яго структуры і жыццядзейнасці. Гэта прадыктавана часам і гэта трэба зрабіць. На апошнім пленуме праўлення СП БССР і было вырашана пытанне аб выпрацоўцы новага, а дакладней — свайго ўласнага статута Саюза пісьменнікаў Беларусі. Хачу спадзявацца, што ён будзе дэмакратычны, справядлівы і паслужыць уздыму аўтарытэту нашай творчай арганізацыі.

**— Ніл Сымонавіч, падзяліцеся, калі ласка, сакрэтам: калі вы паспяваеце ўсё рабіць! Займацца паэзіяй і публіцыстыкай, перакладваць са славянскіх моў, вырашаць дэпутацкія справы, выступаць з дакладамі на пленумах Саюза пісьменнікаў, з прамовамі на розных урачыстасцях і сходах, узначальваць Таварыства беларускай мовы, працаваць у навуковых саветах АН БССР, у рэдакцыйных саветах і калегіях усесаюзных і рэспубліканскіх выданняў... Зрэшты, усяго не перабяру. Чым заняты зараз! Што грэе вашу душу!**

— Наконт «паспяваю» мушу сказаць, што гэта вялікае перабольшанне. Дзе ж яно паспяваю, калі многія творчыя задумы, ужо нават у накідах, доўгія гады ляжаць нерухома. Пакапаўся неяк нядаўна ў гэтых паперах — хоць завый ці загаласі ад крыўды! Можа быць, самыя значныя, самыя вартыя задумы не здзяйсняюцца! Не ведаю, ці чым-небудзь можна апраўдаць гэта. За кошт чаго сёе-тое паспяваў усё-такі напісаць? За кошт выхадных, адпачынкаў і часу, адведзенага ўсявышнім на сон. Апошні раз быў у грыбах гадоў сем-восем назад, а іншых «хобі», якія б спрыялі добрай фізічнай форме, у мяне, на жаль, няма.

Чым заняты зараз? Чакаю з друкарні новую кнігу публіцыстыкі «Вяртанне і працяг» — хочацца думаць: лепшую сваю кнігу ў гэтым жанры. Знаходзіцца ў выдавецтве і рукапіс новых вершаў, напісаных за апошнія тры гады. Зборнік будзе называцца «Жыта, сосны і валуны». Падрыхтаваў для моладзі кнігу пра фальклор і мову роднага краю — пад назвай «Мой белы дзень». А якую задуму з тых, што заляжаліся, першай пакладу на пісьмовы стол? Тую, што наймацней хвалюе. Але гэта ўжо хай трохі пабудзе таямніцай.

Гутарку вёў Вацлаў МАЦКЕВІЧ.

## КОНІ-АСІЛКІ З МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ






Гадоўляй племянных коней рускай цяжкавагавай пароды займаюцца на Мсціслаўскім конезаводзе. Адсюль яны перадаюцца гаспадаркам рэспублікі. Вядомыя яны і за межамі Беларусі. Коні, выгадаваныя ў Мсціславе, маюць многа вартасцей. Гэта пацвердзілі і XXXII Усесаюзныя спаборніцтвы коннікаў, якія адбыліся ў Рызе. Каманда завода выступіла там вельмі паспяхова. Так, у спаборніцтвах на максімальную грузападымальнасць першынстваваў жарабец Рулет. Найвышэйшую цяглавую вынослівасць прадэманстраваў жарабец Пушок.

НА ЗДЫМКАХ: трэнер-брыгадзір завода Валерый КАСЬЯНАЎ з прызам, які заваяваў жарабец Рулет, прадэманстраваўшы грузападымальнасць 26 тон; жарабец Пушок працягнуў 10 тон грузу на адлегласць 1 кіламетр 184 метры і стаў пераможцам спаборніцтваў па цяглавай вынослівасці. Дзевяцікласнік Андрэй ГАРНАСТАЕЎ рады за свайго друга.

Фота С.ЖАЛУДОВІЧА.

## З УСПАМІНАЎ ПАЛЯЎНІЧАГА

# ХІТРЫЯ РАЗБОЙНІКІ

У той зімовы дзень вырашылі калектывам па свежай парошы пайсці на шэрага разбойніка — ваўка. У гэты год яны прыкметна ажывіліся. Шафёры, якія пазняком вярталіся з рэйса, расказвалі:

— Еду, бачу: у святле фар стаіць воўк і не ўцякае. Пад'ехаў блізка, даў сігнал. І толькі тады, той нібы зрабіў ласку, збочыў з дарогі ў хмызняк.

Абышлі некалькі кварталаў лесу, у якіх, спадзяваліся, адпачываюць пасля начнога палявання ваўкі. І не памыліліся: у 63 квартале ёсць уваход двух разбойнікаў, а выхаду няма. Не марудзілі, узялі шнуры з чырвонымі стужкамі і пачалі акружаць той квартал. Але не паспелі абысці і палавіны, як ваўкі пачулі нас і выйшлі з гэтага масіву.

— Перасцігаць дарэмна. Яны ўжо далёка, — сказаў наш вопытны паляўнічы. Ніхто не пярэчыў, таму распалілі касцёр. Густыя верхавіны ялін спявалі свае адвечныя песні, а мы пад іх кронамі прыселі адпачыць і замарыць чарвячка.

— Паслухай, раскажу адзін цікавы выпадак, — пачаў наш сябар.

— Чарада гусей хадзіла па пашы за Нёманам. Бачу: з лесу ад Смольніцы выйшлі два ваўкі. Агледзеліся, прыселі, відаць, параіліся. Потым адзін крыху прысеў і папоўз ула ад сябра. Праз метраў дзвесце накіраваўся на пашу да гусей. Абмінуўшы іх, прыціснуўся да зямлі за невялікаю купінаю.

Той воўк, які застаўся на месцы, то ўстане, то прысядзе. Упэўніўшыся, што сябар ужо ў засадзе, узняўся і бягом да гусей. Тыя заўважылі ворага здалёк, таму не вельмі спяшаліся ўцякаць, подбегам пайшлі ў напрамку вёскі. Як толькі наблізіліся да таго месца, дзе ў засадзе быў воўк, ён скокнуў на самага вялікага гусака, што ішоў наперадзе. Гусі залемантавалі, а адзін ляжаў і біў крыламі па зямлі. Разбойнік кінуўся яшчэ да аднаго, але спазніўся, бо гусі падняліся ў палёт.

Тады воўк вярнуўся, ухапіў задушаную птушку за галаву, узмахнуўшы ёю, закінуў на спіну і трушком накіраваўся да сябра, які ішоў яму насустрач.

Гэта быў прывычны метад нападзення воўчай пары.

— Чаму не заганяў той, што быў у засадзе? — спытаў я.

— Відаць, інстынкт падказаў, што тады гусі не паляцелі б да лесу, дзе быў другі воўк, а збочылі б.

—Хітрыя разбойнікі. Не так проста іх забіць, — скончыў свой расказ сябар.

Яўген КРАМКО.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**БЕКЕТА Іван Адамавіч** шукае сваякоў у ЗША.

Яго дзядзькі — **Вікенцій Міхайлавіч** і **Ігнат Міхайлавіч БЕКЕТЫ** выехалі ў 1910—1917 гадах з вёскі Скрадзевічы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Вядома, што яны жылі ў Чыкага. Вікенцій Міхайлавіч меў сына Пятра, Ігнат Міхайлавіч — дачку Гелен. Да пачатку 60-х гадоў з роднымі падтрымлівалася перапіска, якая абарвалася пасля смерці Вікенція Бекеты.

Просьба да ўсіх, хто можа дапамагчы ў пошуках, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу:

220139, БССР, г. Мінск, п/а Сцяпянка, дом 19, кв. 52, **БЕКЕТУ Івану Адамавічу**.

**ПРАХАРЭНКА (Цюльмянкова) Ада Іванаўна** шукае сваю маці **ЦЮЛЬМЯНКОВУ Аляксандру Піліпаўну**, 1918 года нараджэння.

Раніцай 30 ці 31 кастрычніка 1943 года ў вёсцы Ільінка Магілёўскай вобласці, дзе яна часова жыла ў сваёй старэйшай сястры Аўдзеевай Ганны Піліпаўны, яе разам з братам і сястрой Аляхінымі схапілі немцы і павезлі ў невядомым напрамку. З таго часу вестак аб Аляксандры Піліпаўне не было. Яе дачцэ Адзе, якая знаходзілася ў той час у бабулі ў вёсцы Бронева Магілёўскага раёна, ішоў чацвёрты год.

Просьба да ўсіх, каму што-небудзь вядома пра лёс Цюльмянковай Аляксандры Піліпаўны, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу: 212002, БССР, г. Магілёў, завулак Астроўскага, дом 4, **ПРАХАРЭНКА Адзе Іванаўне.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1484.